*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ № 14(174) ◈ 6 красавіка 1994 г. ◈ Кошт — 100 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ

***30 САКАВІКА ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ЗАЦВЕРДЗІЎ ДАТУ ВЫБАРАЎ ПЕРШАГА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ — 23 ЧЭРВЕНЯ 1994 ГОДА.** Афіцыйна перадвыбарчая кампанія пачнецца 15 красавіка. Каб вылучыць кандыдата ў прэзідэнты, ініцыятыўнай групе трэба сабраць подпісы 70 дэпутатаў парламента, або 100 тысяч выбаршчыкаў. На гэта адведзена 25 дзён.*

■■■

***28 САКАВІКА НА ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ, ПРЫСВЕЧАНАЙ ВЫНІКАМ РАБОТЫ ДЭЛЕГАЦЫІ МІЖПАРЛАМЕНЦКАЙ АСАМБЛЕІ СНД** на праведзенай у Парыжы Першай канферэнцыі Міжпарламенцкага саюза, Старшыня Вярхоўнага Савета Мячэслаў Грыб на пытанне пра аб'яднанне грашовых сістэм Беларусі і Расіі адказаў: «Далейшае зацягванне гэтага пытання не ідзе на карысць ні нам, ні Расіі. Калі не атрымліваецца, значыць, трэба распрацоўваць новы змест двухбаковага пагаднення, шырокамаштабнага дагавора паміж дзвюма дзяржавамі».*

### УСПОМНІМ ДОБРЫМ СЛОВАМ БНР

*Намаганнямі мясцовых арганізацый Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады (БСДГ) і Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны была наладжана вечарына з нагоды 76-й гадавіны абвяшчэння незалежнасці Беларускай рэспублікі.*

*На ёй з паведамленнямі выступалі старшыня Жлобінскай філіі БСДГ Рыгор Панчэня («Жывучасць традыцый БНР на сучасным гістарычным этапе»), яго намеснік Мікалай Карташэвіч («Дзеячы БНР і іх лёс»), старшыня раённага ТБМ імя Ф. Скарыны Мікалай Шуканаў («БНР і адраджэнне беларускай мовы») і іншыя.*

*На вечарыне быў арганізаваны продаж літаратуры па гісторыі і культуры Беларусі, у самадзейным выкананні прысутных гучалі беларускія песні.*

*М. Ш.*

### ПРАКУРАТУРА ЗАЦІКАВІЛАСЯ ПРАВАКАТАРАМІ

*У Жлобіне апошнім часам пачасціліся ананімныя тэлефонныя званкі ў аддзел рускамоўнага насельніцтва з пагрозамі і абразамі. Пры гэтым аўтары згаданых правакацый выступаюць быццам бы ад імя мясцовых арганізацый ТБМ імя Ф. Скарыны, БСДГ, НДПБ і БНФ.*

*У сувязі з гэтым жлобінскія дэмакратычныя арганізацыі прынялі сумесную заяву, у якой асуджаецца падобная практыка «палітычнай барацьбы» і змяшчаецца заклік да насельніцтва не паддавацца на правакацыі. Заява была зачытана на сесіі гарсавета 24 сакавіка, копіі яе перададзены ў пракуратуру, органы бяспекі.*

*М. Ш.*

*Жыццё Таварыства*

## ПРАЦАВАЦЬ НА ГРУНЦЕ НОВАЙ КАНСТЫТУЦЫІ

*З пасяджэння Рэспубліканскай Рады ТБМ*

*11 сакавіка ў канферэнц-зале сталічнага Дома літаратара адбылося пасяджэнне Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны.*

*Адкрыў пасяджэнне старшыня Таварыства, народны дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Ніл Гілевіч. На парадак дня выносяцца наступныя пытанні:*

*1. Аб арганізацыйна-прапагандысцкай дзейнасці Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны (паведамленні намеснікаў старшыні ТБМ Я. Цумарава і С. Запрудскага).*

*2. Аб газеце «Наша слова» (паведамленні галоўнага рэдактара Э. Ялугіна і намесніка старшыні ТБМ З. Санько).*

*3. Рознае.*

*Парадак дня аднагалосна прымаецца сябрамі Рэспубліканскай Рады.*

У сваім кароткім уступным слове Н. Гілевіч адзначыў, што згаданыя пытанні парадку дня невыпадкова пастаўлены для абмеркавання менавіта цяпер, бо сёння мы знаходзімся ў крыху іншай грамадска-палітычнай сітуацыі, чым тыдзень назад. Справа ў тым, — працягваў прамоўца, — што новая Канстытуцыя прынята. А артыкул семнаццаты Канстытуцыі — аб дзяржаўнай мове. Мэта нашага змагання за тое, каб у Асноўным законе было запісана, што беларуская мова з'яўляецца адзінай дзяржаўнай мовай, ажыццёўлена. З чым я горача ўсіх вас і віншую! Таму ў сваёй дзейнасці мы ўжо павінны абапірацца на гэты прававы грунт, што, безумоўна, дадасць нам смеласці і рашучасці, бо мы ўжо будуем сваю работу на грунце Канстытуцыі.

Старшыня ТБМ далей падкрэсліў: Сакратарыят Таварыства прыйшоў да высновы, што ў шэрагу выпадкаў мы яшчэ недапрацоўваем у сваёй агітацыйна-прапагандысцкай рабоце. У сувязі з гэтым узнікла неабходнасць прааналізаваць і вынікі дзейнасці газеты «Наша слова» — нашага бясспрэчнага памочніка.

Намеснік старшыні ТБМ Я. Цумараў акцэнтаваў увагу прысутных на задачах актывістаў Таварыства, якія вынікаюць з новай грамадска-культурнай сітуацыі ў нашай краіне, ахарактарызаванай папярэднім прамоўцам. Кіравацца нам неабходна найперш тым, — сказаў Я. Цумараў, — што сёння беларускасць у рэспубліцы, не зважаючы на ўпартае супрацьдзеянне адпаведных палітычных сіл, пашыраецца. Мы сталі сведкамі, напрыклад, таго, як апошнім часам пачатковая школа павярнулася тварам да нацыянальнай асветы дзятвы, тое ж можна сказаць і аб шматлікіх дашкольных установах Беларусі. Значна павялічылася колькасць грамадскіх арганізацый і ўстаноў, якія з прыхільнасцю і павагай ставяцца да беларускай культуры і роднай мовы. У прыватнасці, Міністэрствам юстыцыі цяпер зарэгістравана ўжо каля 600 грамадскіх арганізацый, значная частка якіх зарыентавана на беларускую нацыянальную культуру. Прыкметны рост уплыву беларускасці разам з іншымі акалічнасцямі абумовілі тое, што падпісчыкаў на расійскія перыядычныя выданні зараз у нас значна паменшылася. З боку кіруючых колаў рэспублікі, — заўважыў аратар, — робяцца пэўныя захады дзеля нацыянальнага Адраджэння. Праўда, не ўсё ажыццяўляецца так, як хацелася б. Не першы раз, напрыклад, на Вярхоўным Савеце адкладваецца абмеркаванне выканання Закона аб мовах.

Далей была прааналізавана бягучая арганізацыйная работа Сакратарыята ТБМ імя Ф. Скарыны. Сябры Рады атрымалі, у прыватнасці, інфармацыю, што на пачатак сакавіка гэтага года Таварыства беларускай мовы аб'ядноўвае 10 гарадскіх рад, 94 раённыя, 40 калектыўных сябрын з правамі юрыдычнай асобы і 2 свае абласныя арганізацыі (Гродна і Магілёў). У той жа час у шэрагу раёнаў рэспублікі дагэтуль не створаны суполкі ТБМ. Сакратарыят імкнуўся ліквідаваць недапрацоўку, становішча на месцах ужо палепшылася, але гэта работа пакуль не завершана. Што да прапагандысцкай дзейнасці Таварыства, то, як адзначыў намеснік старшыні ТБМ, апошнім часам убачылі свет 16 кніг, выдадзеных цалкам на нашы сродкі ці пры нашым фінансавым удзеле. На месцах зараз выходзіць шмат рэгіянальных выданняў Таварыства (газеты ў Баранавічах, Салігорску, Лідзе, Паставах, у Маладзечне — «Газета ў газеце», рэгулярныя старонкі «Роднага краю»). Сакратарыятам аператыўна размяркоўваліся выступленні актывістаў Таварыства ў рэспубліканскіх сродках масавай інфармацыі ў найбольш адказныя і напружаныя моманты, калі, напрыклад, рэзка ўзмацніліся атакі ворагаў беларушчыны на дзяржаўны статус матчынай мовы, у перыяд выбараў і г. д.

У паведамленні намесніка старшыні ТБМ С. Запрудскага асноўная ўвага прысутных была засяроджана на неабходнасці значнага павышэння якасці работы мясцовых арганізацый Таварыства. У Рэспубліцы Беларусь, — сказаў ён, — зараз пагаршаецца эканамічная сітуацыя, што выклікае адпаведныя змены ў псіхалогіі людзей. У такіх умовах прапаганда беларускай мовы ўскладняецца. Але ж гэта зусім не значыць, што яе трэба згортваць. Лічу, што цяпер настала пара ўжо не абапірацца на мясцовыя ўлады, як гэта мы рабілі раней, а кіравацца найперш тым, што наша мова — дзяржаўная. Нам, у прыватнасці, пакуль не хапае ўмення весці контрпрапаганду. Прапаную пры Рэспубліканскай Радзе ТБМ стварыць асобную прапагандысцкую камісію.

У абмеркаванні ўдзельнічалі 15 чалавек. Яны дапоўнілі і канкрэтызавалі прамоўцаў, унеслі свае прапановы, ажыццяўленне якіх павінна садзейнічаць істотнаму паляпшэнню арганізацыйна-прапагандысцкай дзейнасці ТБМ. Так, В. Костка (Маладзечна) выказаў думку аб мэтазгоднасці правядзення ва ўсіх раёнах рэспублікі спецыяльных пасяджэнняў мясцовых органаў улады, якія б разгледзелі ход выканання Закона аб мовах. С. Вадап'ян (Круглае) выказала пажаданне, каб у правінцыю часцей са сталіцы прыязджала больш мовазнаўцаў, пісьменнікаў і паэтаў, бо «жывое беларускае слова лепш пераконвае любую аўдыторыю.., у глыбінцы людзі заўжды з вялікай ахвотай ідуць на сустрэчу з новым чалавекам». А. Казловіч (Кобрынскі раён) падкрэсліў, што прапаганда роднага слова на тэрыторыі Брэсцкай вобласці мае свае асаблівасці, бо гэта рэгіён этнічнага памежжа беларусаў і ўкраінцаў. Становішча тут ускладняецца актывізацыяй дзейнасці так званага Заходнепалескага згуртавання, якое выдае газету «Збудзінне». Апошнім часам на старонках гэтай газеты некаторыя аўтары выступаюць супраць беларусізацыі. У сувязі з гэтым А. Казловіч лічыць, што трэба, каб кіраўніцтва ТБМ імя Ф. Скарыны паспрабавала неяк паразумецца са згуртаваннем і па магчымасці прыйсці з ім да згоды.

А. Пяткевіч (Гродна) выказаў прапанову надаваць больш увагі прапагандзе роднага слова ў рускамоўных школах, якія «па сутнасці застаюцца ў пэўнай ступені аўтаномнымі ў дачыненні да нашай дзяржавы». Наша Таварыства, на думку прамоўцы, пакуль вельмі мала працуе ў войску, «кіраўніцтва якога ў большасці выпадкаў яшчэ знаходзіцца на прарасійскіх пазіцыях». Апошняя акалічнасць робіцца відавочнай з таго, што на некаторых нацыянальна свядомых афіцэраў Беларускага войска, якія зрабілі шмат дзеля нашага Адраджэння, аказваецца пастаянны націск з боку камандавання, іх прымушаюць звальняцца з узброеных сіл. Было названа, у прыватнасці, прозвішча падпалкоўніка С. Судніка — сябра Рэспубліканскай Рады ТБМ, якому не дазволілі нават прыехаць у Менск на пасяджэнне Рады і якога ўжо вырашана звольніць са службы.

М. Мацюкевіч (Салігорск) пагадзілася з тым, што было б вельмі добра, каб на месцы прыязджала больш навукоўцаў — філолагаў, паэтаў, пісьменнікаў. А фінансавыя выдаткі на такія камандзіроўкі маглі б узяць на сябе раённыя аддзелы народнай адукацыі.

Насычаным канкрэтнымі прапановамі было выступленне В. Вячоркі (Менск). Ён падкрэсліў, што новая прапагандысцкая камісія Рэспубліканскай Рады ТБМ абавязко-

*Працяг на с. 3.*

*У газетах*

# Шлях да святой Ефрасінні

Пад такой назвай газета «Звязда» (№ 46, 5 сакавіка г. г.) змясціла інфармацыйны матэрыял вядомай пісьменніцы Валянціны Коўтун аб стварэнні Усебеларускага жаночага фонду Ефрасінні Полацкай, прэзідэнтам якога яна абрана. Галоўны творчы накірунак дзейнасці фонду — садзейнічанне развіццю нацыянальнай культуры, хрысціянскіх традыцый дзеля духоўнага адраджэння беларускага народа. Ініцыятарамі заснавання новай грамадскай арганізацыі, якая павінна аб'яднаць прагрэсіўныя, нацыянальна свядомыя жаночыя сілы нашай краіны, сталі жанчыны, чые прозвішчы добра ведае ўся Беларусь: пісьменніца Святлана Алексіевіч, актрысы Галіна Дзягілева і Марыя Захарэвіч, скульптар Святлана Гарбунова, паэтка Людміла Хейдарава, кампазітар Галіна Гарэлава і інш.

Каардынаты фонду: 220123, Менск, вул. Веры Харужай, д. 10, корп. 2, к. 17. Тэл. 76-94-58.

# Вяртанне старых менскіх тапонімаў

Начальнік упраўлення культуры сталічнага выканкама спадар А. Пятровіч, адказваючы на пытанні аднаго з чытачоў менскай гарадской рускамоўнай газеты «Вечерний Минск», каго зацікавілі нядаўнія перайменаванні вуліц нашай сталіцы, паведаміў рэдакцыі («ВМ» № 50, 10 сакавіка г.г.), што згаданы працэс ажыццяўляецца з мэтай вярнуць старыя гарадскія тапонімы, якія маюць важнае нацыянальна-гістарычнае і моўнае значэнне. Далей А. Пятровіч адзначае, што «за апошнія некалькі гадоў... перайменаваны: плошча Леніна — у плошчу Незалежнасці, Ленінскі праспект — у праспект Ф. Скарыны, вул. Горкага — у вул. М. Багдановіча, вул. Астроўскага — у вул. Ракаўскую (назва вуліцы ў XVIII ст.), вул. Апанскага — у вул. Кальварыйскую (назва вуліцы ў пачатку XIX ст.), вул. Урыцкага і прылеглая да яе частка вул. Рэспубліканскай —, у вул. Гарадскі вал (важны гістарычны аб'ект абарончага характару ў старажытным Менску), частка вул. Рэспубліканскай...— у вул. Раманаўская слабада (гістарычны раён XVIII ст. на заходняй ускраіне Менска), вул. Уручча — у вул. Старынаўскую (назва былой вёскі Старына)».

# Пра Белавежу ўспомнілі ў Парыжы

Як паведаміла менская гарадская газета дэмакратычнага накірунку «Добры вечар» (№ 49, 14 сакавіка г. г.), адна з міжнародных парыжскіх арганізацый, што працуе ў складзе ЮНЕСКА, узнагародзіла калектыў супрацоўнікаў Белавежскай пушчы сваім Ганаровым дыпломам за клапатлівае, беражлівае стаўленне да гэтага унікальнага помніка амаль некранутай чалавекам еўрапейскай прыроды, а таксама за плённую навуковую дзейнасць, накіраваную на захаванне і памнажэнне мясцовых рэдкіх, а часам нават і рэліктавых багаццяў Белавежы.

М. В.

*РЭХА*

# Французы кажуць: «Добрыя хлопцы беларусы». А нам радасць?

У Заходнюю Еўропу цяпер пастаянна наведваюцца не толькі нашы вялікія дзяржаўныя чыноўнікі, але, дзякаваць Богу, і журналісты. Кожны нешта прывозіць. Журналіст Аляксандр Класкоўскі прывёз з Францыі нізку рэпартажаў, якія нядаўна скончыў друкаваць у «Народнай газеце». Агульнае чытацкае ўражанне — з'ездзіў недарма, шмат чаго карыснага пабачыў і цікава здолеў пра тое напісаць. Як «нашасловец», я асабліва звярнуў увагу на наступныя звесткі: французы даўно і на сваю карысць высветлілі: 1) можа сфарміравацца высокапатрыятычная нацыя з разнастайных племянных кампанентаў, калі людзям прывіта адчуванне жыццёвай патрэбы еднасці; 2) можна ганарыцца сваім паходжаннем ад тых жа гордых галаў і лічыць сябе французам (а франкі ж — ваяўнічае германскае племя, якое некалі ўварвалася да суседзяў з боем і ўрэшце дало імя цэлай суверэннай, як зараз кажуць, краіне, а не «зліло» яе з Германіяй); 3) можна шанаваць дыялекты, але клапаціцца, каб квітнела агульнанацыянальная літаратурная мова, якая ўсіх яднае, хоць зноў-такі пачалася з правінцыі, у французскім выпадку з Турэні, хутчэй за ўсё дзякуючы ўмацаванню там першых хрысціянскіх манастыроў.

Ну, але не варта забываць яшчэ адну нацыянальную асаблівасць Францыі: яе энергічныя насельнікі, гэтыя «іншаземцы, што не любяць іншаземцаў», па словах выдатнага французскага акцёра-коміка Калюша, чый уласны род бярэ пачатак у Італіі, пра што згадвае наш журналіст,— па характары людзі з абвостраным пачуццём гумару. Прычым, без залішніх сантыментаў. Словам, добранькімі разявамі іх яшчэ ніхто ніколі не лічыў. А жартаваць умеюць іншым разам бязлітасна. Прычым, з сур'ёзным выглядам на твары. Зыходзячы з гэтага, і паспрабуем асэнсаваць наступную фразу з рэпартажу А. Класкоўскага: «Калі мне ў Парыжы ці Дыжоне, Туры ці Нармандыі даводзілася паведамляць, што наша рэспубліка ахвотна аддае ўсе ядзерныя «бразготкі» вялікай усходняй суседцы, мае французскія суразмоўнікі кожны раз зазначалі, што беларусы — добрыя хлопцы».

Вось так «кожны раз»... Трохі ведаючы характар французаў, можна меркаваць: вымаўляючы гэтае «добрыя хлопцы», нашчадкі д'Артаньяна прытрымлівалі на кончыку свайго вострага языка яшчэ адзін эпітэт для «хлопцаў» — накшталт «шчодрыя». «О-ля-ля, — так і чуецца французскі сэнс у гэтым слоўцы «добрыя»,— ну і арыгіналы гэтыя беларусы: у саміх няма валюты, каб купіць на свабодным рынку энерганосьбіты, і яны робяць даўжнікамі ўжо сваіх дзяцей, і ў той жа час за так аддаюць суседу маёмасць на два мільярды долараў, па ацэнцы міжнародных экспертаў». Добрыя мы хлопцы. Нездарма ў Расіі зноў вырашана нас называць «Белоруссией». А там, глядзіш, і да «Северо-Западного края» з губернатарствам недалёка.

Ул. АСІНАЎСКІ.

*У газетах*

# Для каго «Новая народная газета»?

Пад рубрыкай «Тэлеграфным радком» газета Міністэрства абароны «Во славу Родины» (№ 19, 1 лютага г.г.) змясціла некалькі кароткіх паведамленняў, якія нельга пакінуць без пэўнай увагі.

У першым гаворыцца, што «Совет Союза офицеров Беларуси» накіраваў у Вярхоўны Савет, Генеральнаму пракурору і Міністру юстыцыі ліст з патрабаваннем прыцягнуць да крымінальнай адказнасці лідэра БНФ З. Пазьняка «за разжигание межнациональной вражды и создание военизированного формирования — БЗВ».

У другім абвешчана, што «Народное движение Беларуси» заснавала свой друкаваны орган — «Новую народную газету», рэдактар яе — Наталля Пятроўна Машэрава, дачка былога Першага сакратара ЦК КПБ П. М. Машэрава. Мяркуючы па тым, хто з'яўляецца заснавальнікам і рэдактарам, можна беспамылкова прадбачыць, якім будзе накірунак «Новай народнай газеты».

Супастаўляючы гэтыя факты з іншымі рэаліямі сённяшняга грамадскага жыцця, міжвольна прыходзіш да думкі: згаданыя паведамленні, відаць,— першыя ластаўкі, яўныя прыкметы таго, што антынародныя, пракамуністычныя сілы ачомаліся і пасля адпаведнай перагрупоўкі адкрыта пайшлі ў рашучы наступ супраць кволых яшчэ нашых дэмакратыі і дзяржаўнасці, супраць увогуле беларускасці.

*Мова і вера*

# Многае залежыць і ад пазіцыі прыхаджан

Зрабіць гэтую рэпліку прымусіла мяне публікацыя «Касцёл і роднае слова», змешчаная ў «Нашым слове» 12 студзеня 1994 года. У каторы ўжо раз уздымаецца няпростае пытанне аб ролі і месцы беларускай мовы ў рэлігійным жыцці. Не сакрэт, што многія польскія святары, якія сёння служаць у касцёлах на Беларусі, лічаць беларускіх каталікоў палякамі, а ў выніку перавагу ў сваёй дзейнасці аддаюць польскай мове.

Але такое ненармальнае становішча склалася сёння не ўсюды. Доказам таму з'яўляецца Жлобін, дзе мясцовая каталіцкая абшчына налічвае каля 300 актыўных прыхаджан. Я як супрацоўнік жлобінскай райгазеты, нягледзячы на тое, што з'яўляюся праваслаўным, падтрымліваю добрыя адносіны з каталікамі і ўвесь час уважліва сачу за справамі абшчыны. Таму магу засведчыць, што тут раўнапраўнымі з'яўляюцца тры мовы: беларуская, польская і руская. Гэта назіраецца як у час саміх службаў, так і на штотыднёвых занятках нядзельнай школы, якая ўжо каторы год існуе пры абшчыне. Важнасць беларускай мовы для беларусаў-каталікоў разумее і настаяцель Жлобінскай капліцы Святога Казіміра ксёндз Ян, дарэчы, таксама грамадзянін Польшчы. Гэтую пазіцыю падтрымаў і арцыбіскуп Казімір Свёнтак, які 9 кастрычніка 1993 года наведаў Жлобін.

І тым не менш вырашэнне пытання, быць ці не быць роднай мове ў касцёлах, у першую чаргу залежыць ад саміх прыхаджан. «Мы каталікі, — сведчыць 73-гадовая жыхарка Жлобіна, актывістка мясцовай абшчыны хрысціян-каталікоў Франя Іванаўна Шаціла, — і мы беларусы. І беларуская мова — родная для многіх з нас. Тут нарадзіліся і жылі нашы бацькі і дзяды, тут іх і магілы. На гэтай зямлі і нам паміраць».

Мікалай ШУКАНАЎ,
старшыня Жлобінскай аб'яднанай раённа-гарадской рады ТБМ імя Францішка Скарыны.

*Рэха*

# Было ў Белдзяржуніверсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі свята. Але...

14 сакавіка ва ўрачыстай абстаноўцы адзначалася 30-годдзе радыётэхнічнага інстытута і ўжо ў новай якасці: Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі. Экспанавалася змястоўная выстава дасягненняў калектыву ва ўсіх напрамках яго дзейнасці. Адбыўся вялікі святочны канцэрт.

На ўрачыстым сходзе калектыў віншавалі 21 прамоўца. Выступілі намеснік Старшыні Савета Міністраў М. Дзямчук, міністр адукацыі В. Гайсёнак, рэктары ВНУ, кіраўнікі навуковых і прамысловых калектываў. Добра разумею святочнасць неабходнага мерапрыемства, але нельга не звярнуць увагу на злабадзённасць у жыцці ВНУ, а менавіта на ўжыванне беларускай мовы як дзяржаўнай. Нагадаем, што з 1 верасня 1993 г. уведзены ў дзеянне артыкулы 27 «Мова ў сферы навукі», 28 «Мова ў сферы культуры», 29 «Мова сродкаў масавай інфармацыі» Закона аб мовах. Гэта добра вядома ў сістэме адукацыі: Тым больш выклікае здзіўленне парушэнне, а дакладней, ігнараванне законаў Беларусі і прафесійных абавязкаў некаторых выступоўцаў. Толькі 7 прамоўцаў на афіцыйным дзяржаўным мерапрыемстве карысталіся дзяржаўнай — беларускай — мовай.

Добры прыклад павагі да законаў, нормаў культуры, прафесійнай адказнасці паказалі прадстаўнікі ўрада прафесары М. Дзямчук і В. Гайсёнак. Яны выступалі без тэкстаў на добрай беларускай літаратурнай мове. Рэктар універсітэта прафесар Ільін адкрыў сход на добрай беларускай мове. А вось даклад па гатовым тэксту прачытаў потым на... расійскай. Агульнавядома, што асноўныя прынцыпы навуковай і народнай педагогікі акумуляваны ў шырока ўжываемым выслоўі: «Рабі — як я».

Відаць, неабачлівыя паводзіны гаспадароў свята дазволілі госцю з Масквы на ўрачыстасці зняважліва паставіцца да беларускай культуры. Намеснік старшыні ВАКа Расіі Міхаіл Расолаў, з гонарам падкрэсліўшы, што ён беларус, потым дадаў: але «в этом зале мне особенно хочется говорить на русском языке, языке Пушкина...» Далей прамоўца сцвярджаў, што толькі расійская мова з'яўляецца элементам культуры, сродкам аб'яднання народаў. І пры гэтым ні слова аб ролі і месцы нацыянальнай культуры і яе асновы — мовы ў падрыхтоўцы інжынерных кадраў для дзяржавы Беларусь. Цікава, як бы ўспрыняла універсітэцкая аўдыторыя Масквы, каб рускі з гонарам пачаў сцвярджаць, што беларуская (ці нямецкая, англійская, французская) мова — шлях да культуры, аснова для аб'яднання навук і народаў? Незразумела: гэта было прыватнае ці афіцыйнае выступленне ад ВАКа Расіі? У любым выпадку яно не спрыяла натуральнаму, цывілізаванаму далейшаму развіццю двух суседніх культур, дзяржаў. Мяркую, што павінны быць нейкія межы паводзін, а ўрэшце, самапавагі да сябе, да нацыянальнай культуры свайго народа.

Мікола САВІЦКІ,
старшыня Менскай гарадской Рады ТБМ імя Ф. Скарыны, прафесар.

Пачатак на стар 1.

ва павінна мець інфармацыю аб усіх культурна-адраджэнцкіх мерапрыемствах, запланаваных дэмакратычнымі партыямі, рухамі, арганізацыямі і згуртаваннямі. Гэта дазволіць актывістам нашага Таварыства сумесна ўдзельнічаць у разнастайных супольных грамадскіх акцыях, што, безумоўна, паспрыяе росту аўтарытэту ТБМ. Першачарговая задача таксама — стварэнне ў самы бліжэйшы час сваіх абласных арганізацый. Усім нам, — далей адзначыў В. Вячорка, — трэба вучыцца працаваць у новых умовах, звярнуўшы самую пільную ўвагу на работу са спонсарамі. Цяпер літаральна ў кожным раёне рэспублікі ёсць дзесяткі камерцыйных арганізацый. Лічу, што пытанням работы са спонсарамі варта прысвяціць спецыяльны семінар ТБМ. Нельга выпускаць з поля зроку і прафесіянальных журналістаў, людзей нацыянальна свядомых, да якіх часта яшчэ не даходзіць інфармацыя аб дзейнасці нашага Таварыства.

Прадстаўнік Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь у складзе Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны палкоўнік У. Танана давёў прысутным, што некалькі хвілін назад ён звязаўся па тэлефоне з упраўленнем кадраў свайго міністэрства, дзе запэўнілі: ніякіх дакументаў на звальненне падпалкоўніка С. Судніка (аб чым у зале нядаўна гаварыў А. Пяткевіч) з узброеных сіл пакуль няма.

Н. Аксёнчык (Мазыр) заўважыла: не трэба забываць, што ТБМ — грамадская арганізацыя, а Закон аб мовах абавязаны выконваць у першую чаргу дзяржаўныя арганізацыі і ўстановы. Яна падкрэсліла, што ў аддаленых ад сталіцы кутках настаўнікі роднай мовы па-ранейшаму не маюць сучасных падручнікаў, метадычных дапаможнікаў. Яны нават пазбаўлены магчымасці знаёміцца з навінкамі сучаснай беларускай літаратуры, бо гэтыя кнігі на перыферыю амаль не даходзяць. Таму прамоўца лічыць, што нашаму Таварыству трэба павялічыць выпуск кніг нацыянальна-адраджэнцкага накірунку.

Старшыня Менскай гарадской арганізацыі ТБМ прафесар М. Савіцкі пачаў з канстатацыі таго, што «ў нашай дзяржаве, на жаль, дагэтуль няма палітычных рычагоў, накіраваных на спыненне русіфікацыі». Ён прапанаваў стварыць на рэспубліканскім радыё і тэлебачанні пастаянную рубрыку «Гадзіна беларускай культуры», для ўдзелу ў якой запрашаць вядомых навукоўцаў,

# ПРАЦАВАЦЬ НА ГРУНЦЕ НОВАЙ КАНСТЫТУЦЫІ

дзеячаў мастацтва, беларускіх пісьменнікаў і паэтаў. Старшыня сталічнай рады ТБМ прапанаваў выдаць на сродкі Таварыства брашуры з тэкстам выступленняў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у абарону дзяржаўнасці роднай мовы і дэпутатаў, якія зацята змагаліся за так званае двухмоўе: грамадзяне павінны ведаць сапраўднае палітычнае аблічча сваіх абраннікаў.

Пры абмеркаванні першага пытання парадку дня слова таксама бралі сябры Рэспубліканскай Рады: Л. Цыганкоў (Менск), М. Булавацкі (Магілёў), В. Болбас (Светлагорск), А. Шастаковіч і А. Чэчат (Менск).



Вынікі абмеркавання падсумавалі намеснік старшыні ТБМ С. Запрудскі і аргсакратар Рэспубліканскай Рады В. Вільтоўскі. Зачытваецца праект пастановы, які аднагалосна прымаецца за аснову і зацвярджаецца. (Дакумент друкуецца асобна.)

З інфармацыяй па другім пытанні парадку дня выступіў галоўны рэдактар газеты «Наша слова» Э. Ялугін. Ён паведаміў, што якраз у сёлетнім сакавіку спаўняецца чатыры гады са дня заснавання газеты. Тады мы мелі, — адзначыў галоўны рэдактар, — крыху больш за шэсць тысяч падпісчыкаў, а на студзень бягучага года — іх ужо 8324. Гэта тэндэнцыя росту назіраецца не толькі па прынятых тэрмінах падпіскі (квартал), а і памесячна... Кантынгент нашых падпісчыкаў і, зразумела, чытачоў, сведчыць, што беларускасць, якую прапагандуе газета, знаходзіць усё большы водгук у душах людзей.

Далей прамоўца прааналізаваў асноўныя накірункі дзейнасці газеты. Спыніўся ён і на цяжкасцях, з якімі кожны дзень сустракаецца творчы калектыў рэдакцыі: малапрыдатнае службовае памяшканне, амаль поўная адсутнасць у рэдакцыі сучасных сродкаў аргтэхнікі (на балансе, напрыклад, маецца толькі адна, даўно спісаная друкарская машынка і ўсяго адзін дыктафон, дарэчы, куплены за кошт добраахвотных ахвяраванняў газеце чытачоў). Але, не зважаючы на ўсё гэта, — працягваў Э. Ялугін, — рэдакцыя стараецца працаваць з улікам самых высокіх патрабаванняў часу. У шэрагу выпадкаў «Наша слова» выступала ініцыятарам добрых і карысных спраў. Так, нядаўна пры газеце створаны Клуб беларускіх перакладчыкаў, справаздача аб яго рабоце ўжо друкавалася... Галоўнай мэтай газеты па-ранейшаму застаецца выхаванне нацыянальнай свядомасці. Таму ўсе матэрыялы кожнага нумара газеты непасрэдна ці ўскосна працуюць на выкананне гэтай пачэснай, хоць далёка няпростай, задачы. Вельмі важна, што газету ўжо заўважылі, нас ведаюць і чытаюць. З аўтарскім актывам і шырокай чытацкай аўдыторыяй рэдакцыя мае ўстойлівыя і трывалыя кантакты.

Намеснік старшыні ТБМ З. Санько ў сваім паведамленні адзначыў, што апошнім часам агульны ўзровень матэрыялаў, надрукаваных у газеце, прыкметна павысіўся. Газета падабаецца чытачам, хоць, вядома, не ўсё пакуль ідзе гладка, але ж нельга закрэсліваць і здабыткі «Нашага слова»: публікацыю артыкулаў аб Саюзе беларускай моладзі (СБМ), шматлікіх чытацкіх допісаў у рэдакцыю, рэгулярныя гутаркі з цікавымі людзьмі, тэматычныя старонкі «Вучымся!» і «Гісторыя Айчыны — вайскоўцам», змястоўныя рубрыкі «Старыя беларускія гімназіі» і «Шэдэўры сусветнай паэзіі па-беларуску», якія вядуць народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль і паэт Лявон Баршчэўскі. Далей З. Санько звярнуў ўвагу прысутных на тое, што вельмі добрае ўражанне пакідаюць публікацыі З. Сіцько, І. Крамко, В. Раманцэвіч і іншых аўтараў па моўных пытаннях. У газеце пастаянна асвятляюцца праблемы нацыянальна-культурнага жыцця беларускага замежжа. У газеце, напрыклад, ёсць сталая рубрыка «Весткі з Віленшчыны». Шкада толькі, што часам там друкуецца аднабаковая інфармацыя. Яна ідзе на руку пэўным сілам, якія ўсяляк намагаюцца раз'яднаць нашых землякоў на Віленшчыне.

Прамоўца лічыць памылковай публікацыю ліста Філіповіча (№ 8 «Нашага слова»). На думку З. Санько, не варта было змяшчаць у трох нумарах газеты вялікі матэрыял, прысвечаны праблемам міграцыі, бо тэма гэтых артыкулаў не прызначана для газеты ТБМ імя Ф. Скарыны. Пасяджэнне рэдакцыйнай калегіі збіралася толькі аднойчы, яго рашэнні выконваюцца не поўнасцю (напрыклад, на старонках газеты амаль не асвятляюцца спрэчныя пытанні сучаснай беларускай гутарковай мовы).

У абмеркаванні паведамленняў удзельнічалі шэсць чалавек. Я. Цумараў, гаворачы аб відавочных дасягненнях «Нашага слова», падкрэсліў: «Не кожная газета можа пахваліцца тым, што яе старонкі выдаюцца ў выглядзе кніжак. У нас жа такія прыклады ёсць: моўныя раздзелы, якія ў газеце працяглы час вяла Валянціна Раманцэвіч, склалі аснову дзвюх яе кніжак — падручніка роднай мовы для шырокага кола навучэнцаў і моўнага дапаможніка для вайскоўцаў».

Розныя бакі дзейнасці газеты былі падрабязна прааналізаваны пісьменнікам В. Адамчыкам (Менск), які, у прыватнасці, сказаў: «Наша слова» шмат робіць для прапаганды беларускай мовы. Мне, як чытачу, асабліва прыемна, што матэрыялы газеты характарызуюцца дасціпнасцю, палітычнай вастрынёй, часам — і сенсацыйнасцю. Усяго гэтага настойліва вымагае сам выдавецкі працэс стварэння кожнага газетнага нумара». Прамоўца адзначыў, што найбольш удалымі публікацыямі газеты апошняга часу былі артыкулы аб Саюзе беларускіх патрыётаў і Саюзе беларускай моладзі. Разам з тым ён лічыць, што работа рэдакцыі не пазбаўлена недахопаў: у газеце нецікавая вёрстка, мала друкуецца здымкаў, амаль няма дыскусійных матэрыялаў, сустракаюцца выпадкі, калі газета спасылаецца на выказванні неаўтарытэтных асоб. Але ўсе згаданыя хібы ў значнай ступені абумоўлены тым, што «газета пакуль выпрацоўвае свой уласны стыль, — яе аўтарытэт будзе расці».

С. Вадап'ян (Круглае) прапанавала «Нашаму слову» друкаваць тэлепраграму на тыдзень, што дазволіць узняць разавы тыраж кожнага нумара прыкладна ўдвая. Яна лічыць таксама мэтазгодным, каб у газеце змяшчаліся беларускія вершы, прадугледжаныя праграмай сярэдніх школ, бо на месцах настаўнікі роднай літаратуры знаходзяць іх з цяжкасцю. С. Вадап'ян выказалася і за тое, каб газета (хоць бы раз на квартал) выпускала спецыяльныя нумары, прысвечаныя сучаснай беларускай паэзіі.

Я. Стапановіч (Менск) звярнуў увагу на тое, што вёрстка нумароў «Нашага слова» ажыццяўляецца недаравальна марудна, на працягу некалькіх тыдняў. Вінавата ў гэтым не рэдакцыя, а Рэспубліканская Рада ТБМ, якая пакуль не забяспечыла рэдакцыю сучаснай камп'ютарнай тэхнікай. У выніку ўсе намаганні супрацоўнікаў газеты аператыўна паспець за падзеямі часта зводзяцца на нішто.

У сваім выступленні В. Вячорка прапанаваў вярнуцца да рэгулярных пасяджэнняў рэдакцыйнай калегіі. Год назад, — працягваў ён, — мяне надта бянтэжыла вялікая савецкая спадчына, якая адбівалася на змесце газеты. Цяпер гэтага недахопу рэдакцыя амаль пазбавілася. Для павышэння агульнага ўзроўню газеты рэдакцыі варта наладзіць рабочыя кантакты з падобнымі выданнямі, якія выходзяць у іншых посткамуністычных краінах.

А. Шастаковіч зрабіў заўвагу: возьмеш у рукі, напрыклад, «Мы и время», і імгненна робяцца яснымі мэты згаданай газеты, а з «Нашага слова» часам не бачна, што гэта — газета ТБМ імя Ф. Скарыны.

Старшыня Таварыства Н. Гілевіч абагульніў выступленні. Нам цяжка, — адзначыў ён, — крытыкаваць сваю газету. Але ж менавіта гэта і абавязвае адкрыта гаварыць, прапаноўваць усё тое, каб сваю газету палепшыць. Радасна, што «Наша слова» пашыраецца сярод моладзі. Калі гэты пазітыўны працэс будзе працягвацца, то мы зможам з аптымізмам глядзець у будучыню. Шкада, што асобныя газетныя рубрыкі неяк згубіліся. Напрыклад «Руплівцы», дзе выказвалася публічная павага да заслуг нашых адраджэнцаў. Газеце неабходна больш і значна шырэй асвятляць драматычныя старонкі айчыннай гісторыі і культуры. Моўныя матэрыялы газеты спрыяюць укараненню роднага слова ў самыя розныя сферы нашага хуткаплыннага жыцця. Я пагаджаюся з думкай В. Адамчыка, які параіў вельмі асцярожна падыходзіць да цытавання тых нашых пісьменнікаў, хто раней не з'яўляўся прыхільнікам беларушчыны. Ад імя ўсіх я выказваю вялікую ўдзячнасць усім супрацоўнікам рэдакцыі «Нашага слова». А крытычныя заўвагі яны ўлічаць.

Прапануецца праект пастановы па другім пытанні парадку дня, які прымаецца за аснову, а затым аднагалосна зацвярджаецца. (Дакумент друкуецца асобна.)

У раздзеле «Рознае» сябры Рэспубліканскай Рады ТБМ кааптавалі ў свой склад П. Сцяцко — вядомага мовазнаўцу (Гродна), які часта выступае з артыкуламі на старонках «Нашага слова».

У той жа дзень сябры Рэспубліканскай Рады былі запрошаны на ўрачыстую вечарыну Беларускага слова, якую ў Доме літаратара наладзіла Менская арганізацыя ТБМ. Са сцэны гучалі неўміручыя вершы Янкі Купалы, творы кампазітара і спявачкі Галіны Смоляк. Перад удзельнікамі выступаў з фальклорнымі песнямі ансамбль выкладчыкаў БДУ «Тутэйшая шляхта».

У фае можна было купіць папулярную беларускую літаратуру, кнігі па гісторыі і культуры Беларусі. Усе госці атрымалі ў якасці сувеніраў значкі ТБМ імя Ф. Скарыны і кніжкі, нядаўна выдадзеныя Таварыствам: «Голас народа — голас божы» і «Як не спыніць узыходу сонца» Н. Гілевіча.

Наш карэспандэнт.

На здымку: у зале вечарыны.

Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛІНФАРМ.

# Вучымся!

Мікалай КРЫЎКО

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

ПАДЛІЧЫЦЬ (палічыўшы, вызначыць суму, колькасць каго-, чаго-н., падвесці вынікі) *Стоячы каля хаты, Канстанцін Міхайлавіч падлічыў, колькі год пасаджаным яго рукамі дрэвам* (Лужанін), ВЫЛІЧЫЦЬ (лічачы, устанавіць, высветліць колькасць чаго-н.; выканаўшы аперацыю над лікамі, знайсці шукаемае) *«Шэсць з палавінаю вёрст»,— вылічыў Сяргей Карага і пачаў штосьці выражоўваць, як чалавек, доўга знаёмы з вайсковаю абстаноўкаю* (Колас). *Вылічыць агульны назоўнік дробаў*, ПАДРАХАВАЦЬ разм. (палічыўшы, зрабіць падрахунак, падсумаваць) *Прайшлі спачатку і [юныя натуралісты] праз увесь край, дзе рос ядловец, падрахавалі прыблізна колькасць лепшых кустоў* (Дубоўка), ВЫРАХАВАЦЬ разм. (правільна ўлічыць, прадугледзець усе акалічнасці для дасягнення чаго-н.) *Вырахаваць час.*— Незак.: **Падлічваць, вылічáць, вылічваць, падрахóўваць, вырахóўваць.**

ПАДЛОГА (насціл у памяшканні, па якім ходзяць) *Глеб Іванавіч устаў і захадзіў па цеснай хаце, прыслухоўваючыся, як рыпіць падлога пад нагамі* (Дуброўскі), ПАМОСТ *Кухня была прасторная і даволі светлая, з цагляным памостам* (Колас). *Расплюшчыў вочы [Лявок], глянуў на хату, на памост. Адчаго гэта святло на памосце,— месячык хіба ўзышоў,— але чаго яно так хістаецца па памосце?* (Галавач).

ПАДМАН (словы, учынкі, дзеянні і пад., якія наўмысна ўводзяць іншых у зман) *Нарэшце старшыня рашыў падманам узяць каня* (Корбан).— *А пані вядома,— запытаў яе старшыня суда,— што за лжывае паказанне, за падман суда сведка павінен быць цяжка пакараны?* (Машара), АБМАН — *Ніколі не паддавайся на абман, дуда мая, ніколі!* (Бядуля), ЗМАН *[Лена] шкадавала, што паддалася на зман, што не хапіла вытрымкі ў спрэчцы з Волькай.* (Ваданосаў), АШУКАНСТВА *Горш за ўсё... [Васіль Паўлавіч] ненавідзіць людзей, схільных да якіх-небудзь махінацый, ашуканства* (Кулакоўскі).

ПАДМАНЛІВЫ (які тоіць у сабе падман, служыць асновай для няправільнага меркавання) *Чорныя распушаныя вусы надаюць... шырокаму твару [Мальчэўскага] сярдзіты, нават злосны выгляд. Але ўсе ў дэпо ведаюць, што выгляд гэты падманлівы* (Васілёнак), ПАДМАННЫ *Баласпай асадзіў кабылу. Па почырку арлінага лёту ён здагадаўся, што звер сумеў ашукаць птушку. Воўк ці хутчэй за ўсё ліса зрабіла падманную стойку* (Беразняк).

ПАДМАНШЧЫК (той, хто падманвае каго-н.) *Падманшчыкі вы, хлусы... — недаверліва сказала... [Тоня], зазіраючы ў калодзеж.— Хіба ўдзень зоркі ўбачыш?* (Місько), АБМАНШЧЫК *Не верце гэтаму абманшчыку*, АШУКАНЕЦ *Дзед спалохаўся і не адразу паверыў, хоць хлопцы і не падобныя былі на ашуканцаў* (Васілевіч).— Параўнайце: Махляр.— **Падмáншчыца, абмáншчыца, ашукáнка.**

ПАДМАНУЦЬ (абысціся з кім-, чым-н. несумленна), *Галаўні і язі — рыба хітрая, падмануць яе не лёгка...* (Якімовіч), АБМАНУЦЬ *Знаў у жыццёвай ты барацьбе Радасці, шчасця мінуты... Што ж не прызнаешся нават сабе? Ну і каго абмануў ты?* (Тарас), УВЕСЦІ Ў ЗМАН размоўнае *Бо, каб у зман чужынца ўвесці,— мы ўсе ў адзін ступаем след* (Астрэйка), АШУКАЦЬ *Сорамна бацьку ўжо глянуць у вочы: ён спрабаваў ашукаць яго двойчы* (Дубоўка), АБМАНІЦЬ — *Я сама сабе адмераю, — вытлумачыла яна свой учынак.— Не давяраю мужчынам, яны ўсё мяркуюць, каб як бабу абманіць* (Галавач), АБВЕСЦІ разм. *Гэты Грамадка не хлапчук, каб яго можна было абвесці* (Хадкевіч), ПРАВЕСЦІ разм. *Было радасна разгадваць хітрыкі зладзеяў — Валенду не правядзеш* (Асіпенка), ЗВЕСЦІ разм. *Некаторыя старэйшыя нават упікалі Грамабоя, што ён звёў [Жыгулу], казалі, што сорам так рабіць* (Крапіва), АБЫСЦІ разм. *Міхайлаў быў добры канцылярыст, ён умеў абысці паперкаю начальства* (Шынклер), АБДУРЫЦЬ разм.— *Што ты, матухна,— не верыць поп.— Ілжэ твой салдат. Абдурыў ён цябе* (Якімовіч), АДУРМАНІЦЬ разм. (падмануўшы, паставіць каго-н. у недарэчнае становішча) *Такія, як ты, Цыліч, дапамагалі фашыстам адурманіць Бінке і Зігерса,— горача прамовіў Вільд* (Шамякін), АБАЛВАНІЦЬ разм. *Людзі з дробнымі, абмежаванымі, уласніцкімі інтарэсамі і вузкім ідэйным і грамадскім кругаглядам далі магчымасць Гітлеру і яго хеўры іх абалваніць* (Гурскі), АБМАРАЧЫЦЬ і АБМАРОЧЫЦЬ разм. (задурманіўшы галаву, ашукаць каго-н.), АБЖУЛІЦЬ разм. (спрытна і хітра ашукаць у грашовых справах, разліках) *Жулік жуліка абжуліў* (Крапіва), НАГРЭЦЬ разм. іранічнае (падмануць у грашовых справах, падманам прымусіць каго-н. панесці матэрыяльныя страты) *Добра, кажа, нагрэў вас Гендарсан за гэтыя гады. Падумай ты сам, Лявон, тры капейкі на пуд!* (Чарнышэвіч), АБЛАПОШЫЦЬ разм. (падмануць з карыслівай мэтай) — *Месяцы два назад нам удалося аблапошыць нямецкую агентуру* (Шашкоў), АЧМУРЫЦЬ і АЧМУЦІЦЬ разм. (абдурыць, адурманіць з якой-н. мэтай) *Паны пачалі шукаць спосабу, каб хутчэй і лягчэй ачмурыць просты народ* (Шынклер). *Лоўка ачмуцілі польскія паны падатных веруючых сваім шыкозным спецыяльным цягніком для дэвотак!* (Шынклер), АБВЕСЦІ (або АБКРУЦІЦЬ) ВАКОЛ (або КРУГОМ) ПАЛЬЦА разм. (спрытна, хітра ашукаць) . — *Абдурыў нас Каршукоў і яшчэ не адзін раз вакол пальца абвядзе* (Асіпенка). *Таго Міканора каморнік сорак разоў абкруціць вакол пальца! Такога грамацея, як Міканор!..* (Мележ), АБУЦЬ У ЛАПЦІ прастамоўнае (абхітрыць, спрытна, хітра падмануць, выкарыстаўшы даверлівасць або недасведчанасць каго-н.) *Каза, а не дзеўка — адно вока таўчэ, а другое меле. І пароды хітрай. Ураз у лапці абуе* (М. Ткачоў).— Незаконачанае трыванне: **Падмáнваць, абмáнваць, увóдзіць у зман, ашýкваць, абвóдзіць, правóдзіць, звóдзіць, абыхóдзіць і абхóдзіць, абдýрваць, адурмáньваць, абалвáньваць, абмарóчваць, абжýльваць, награвáць, аблапóшваць, ачмурáць, абвóдзіць (абкрýчваць) вакóл (кругóм) пáльца, абувáць у лáпці.**

*Пры кансультацыі заслужанага работніка народнай адукацыі Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара Леаніда Іванавіча БУРАКА*

УДАКЛАДНІМ

## Знакі прыпынку пры параўнальных зваротах

*(Працяг. Пачатак у № 13)*

4. Калі параўнальныя звароты могуць быць заменены назоўнікам або прыметнікам у творным склоне ці прыслоўем без істотнай змены агульнага зместу сказа, то ў залежнасці ад інтанацыйнага і сэнсавага чляненння коска ставіцца (пры вынясенні на першы план аб'екта дзеяння) або не ставіцца (пры вынясенні на першы план спосабу дзеяння): *Як сталь, пружыняць нервы* (А. Куляшоў). *Як вадаспад, імчыцца час* (П. Глебка). Але: *Як вінаватыя на цыпачках выходзяць санітары* (І. Мележ). *Як лёгкія птушкі ўзняліся коні, распушыўшы хвасты і грывы* (М. Лынькоў).

5. Коска ставіцца перад словам **як** у выразах **не хто іншы, як; не што іншае, як:** *Па вуліцы ішоў не хто іншы, як сам каваль* (Х. Шынклер). Параўнайце: *Каму іншаму, як не яму, былі вядомы ціхія шэпты старога лесу на захадзе сонца* (Якуб Колас).

6. Параўнальныя звароты, якія маюць удакладняльнае або паясняльнае значэнне, аддзяляюцца або выдзяляюцца коскамі: *Ночка глухая цягнецца доўга, як год* (Якуб Колас). *Дзед падышоў неяк неўзаметку, нібы падкраўся* (Я. Брыль). *Круглы, нібы шар, месяц выплыў з-за лесу* (Кузьма Чорны).

7. Параўнальныя звароты, якія маюць заключальнае значэнне, аддзяляюцца або выдзяляюцца коскамі: *Каля крамы, як звычайна ў нядзелю, тоўпілася многа святочнага народу* (І. Мележ). *Ясныя былі дні, марозлівыя і, як заўсёды ў такую восень, ціхія* (Кузьма Чорны).

Заўсёды ставіцца коска, калі для прымацавання такіх зваротаў ужываецца злучнік **як** у спалучэнні з узмацняльнай часціцай **і**: *Пракоп, як і кожны селянін, крыху дыпламат* (Якуб Колас).

8. Параўнальныя звароты, якія маюць дадатковае адценне прычыны, умовы, мэты, звычайна аддзяляюцца або выдзяляюцца коскамі: *У Андрэя, як ад моцнага ўдару, сціснуліся бровы* (Я. Скрыган). *Высока, нібы для ўдару, паднята яго рука* (М. Зарэцкі).

9. Параўнальныя звароты, якія па свайму значэнню набліжаюцца да пабочных слоў і словазлучэнняў, заўсёды аддзяляюцца або выдзяляюцца коскамі: *Вецер, бы знарок, суняўся* (П. Броўка). *Сайка, як ні ў чым не бывала, падышоў да Максіма* (Якуб Колас).

Калі ж параўнальныя звароты ўжываюцца са значэннем устаўкі, тады яны бяруцца ў дужкі: *Стрэльба (як ніколі раней) здалася непатрэбнай* (М. Гарэцкі).

10. Калі параўнальныя звароты стаяць пры адным з аднародных членаў або прэдыкатыўнай частцы складанага сказа, звязаных пры дапамозе злучнікаў, то гэтыя звароты аддзяляюцца або выдзяляюцца коскамі на аснове агульнага правіла: *Хмары слёзы насілі з Дняпра і Бярозы і, як срэбрам, абсыпалі мне галаву* (П. Броўка). *Плылі лёгкія воблакі, за якімі, як за падушкай, хавалася сонейка* (Якуб Колас).

11. У тых выпадках, калі характар параўнання падкрэслен з асаблівай сілай і суправаджаецца ўзмоцненай інтанацыяй, параўнальныя звароты аддзяляюцца або выдзяляюцца пры дапамозе працяжніка: *Глыбіня ў небе стала бяздоннаю — як крыніца чыстай вады* (Кузьма Чорны). *На паліцы маёй новай хаты — як самае прыгожае, самае дарагое — стаяць кнігі настаўнікаў жыцця* (Я. Брыль).

**Заўвага.** Пры большай паўзе і развітасці параўнальнага звароту і аслабленай сувязі яго з астатняй часткай сустракаецца пастаноўка коскі з працяжнікам: *Пад горам гнуць спіну і біць паклоны не можам мы,— як нашыя дзяды* (М. Машара).

12. Параўнальныя звароты ў сярэдзіне сказа могуць аддзяляцца працяжнікам з аднаго боку для таго, каб больш наглядна паказаць, да якой часткі сказа яны адносяцца, і тым самым узмацніць і падкрэсліць суадносіны прыпадабнення паміж гэтымі часткамі, напрыклад: *Лёд на лугах — як люстра ззяе* (Якуб Колас).

13. Калі ў сказе ёсць некалькі параўнальных зваротаў, то яны аддзяляюцца або выдзяляюцца знакамі прыпынку на аснове агульнага правіла: *Як віхар, як птушка, імчыцца машына* (Янка Купала). *На агонь, як на хвалі ці на ўспаміны, можна доўга глядзець* (М. Танк).

14. Пры парцэляцыі параўнальныя звароты становяцца функцыянальнымі аналагамі сказа і аддзяляюцца ад асноўнай часткі канструкцыі пры дапамозе кропкі або шматкроп'я (пры большай паўзе): *Нешта доўга звінела. Быццам туга напятая струна* (Б. Мікуліч). *Людзі заварушыліся... Бы тыя мурашкі* (М. Гарэцкі). *Сонца прыгравала добра... Як быццам у летні час* (Якуб Колас).

## Усё ж вы мужчыны...

*Культура мовы*

**Каб было адразу зразумела, пра што пойдзе гаворка, згадаю адзін толькі прыклад са звяздоўскай публікацыі. У артыкуле «Мёртвым гэта не трэба...» маем такі сказ: «Напомню, што мелася на ўвазе ўзвесці помнік Франціску Скарыне ў Мінску, Сымону Полацкаму ў Полацку, Кірылу Тураўскаму ў Тураве, Васілю Вашчылу ў Крычаве...» («Звязда», 14.10. 1993 г.).**

**Выпішам з гэтага сказа два прозвішчы і паставім націскі: *Вашчы́ла, Скары́на.* Як бачым, націскная пазіцыя ў згаданых прозвішчах адна. Што яшчэ? Аснова... Яна таксама аднолькавая — цвёрдая... Але чаму ж тады ў згаданых прозвішчах такія розныя канчаткі — *Скарыне, Вашчылу?* Скарынава прозвішча праскланяна паводле мадэлі жаночага роду, Вашчылава — па мужчынскай.**

**У беларусаў дужа шмат прозвішчаў згаданага тыпу. Гэта і *Скарына, Сапега, Пыліла, Гаціла, Гасціла, Біруля, Забэйда, Сыракомля, Манюшка, Ціхіня, Кляўчэня, Бірыла, Тукала, Сахута, Сушчэня, Шкраба, Пархута, Шырма, Пічэта, Шыпіла.***

**І вось згаданыя тут прозвішчы ў розных беларускіх выданнях па-рознаму скланяюцца. У адных — *Скарынам, Сапегам, Пылілам, Гацілам, Бірулем, Забэйдам, Сыракомлем, Манюшкам, Бірылам, Ціхінем.***

**У другіх — *Скарынай, Сапегай, Пылілай, Гацілай, Біруляй, Забэйдай, Сыракомляй, Манюшкай, Бірылай, Ціхіняй, Тукалай.***

**І гэта цягнецца гадамі... Ці можна гэта, нарэшце, унармаваць, прывесці да аднаго правіла, — усе іх скланяць, як назоўнікі мужчынскага роду?**

**Праўда, некаторыя прозвішчы згаданага тыпу не вельмі хочуць скланяцца, як назоўнікі мужчынскага роду. Скажам — *Каляда, Крапіва* з націскам на апошнім складзе. У творным склоне па мужчынскай мадэлі павінна быць: сустрэўся *з Крапівом, з Калядом...* Але гэта неяк нязвыкла ўжо гучыць... А можа гэта мы сябе проста адвучылі ад натуральнасці?**

**З гэтай нагоды прыгадваецца адна спрэчка на нарадзе ў Акадэміі навук, прысвечанай унармаванню беларускай граматыкі, беларускага правапісу. Янка Скрыган звяртаецца да Кандрата Крапівы:**

**— Кандрат Кандратавіч! Вы ж не расліна... Вы ж мужчына. Я павінен пісаць, гаварыць: *сустрэўся з Крапівом, гутару з Крапівом,* а не з *Крапівой...***

**І тут жа з беларускай ментальнасцю, з пакораю, дадаў:**

**— Але я не парушу правіла, хаця я ведаю, што пішу няправільна.**

**І вось з гэтым сваім беларускім менталітэтам і граматыку сваю ніяк да ладу не давядзём, і дзяржаву не наладзім.**

**Яшчэ ў «Граматыцы беларускай мовы» (т. 1. Мн., выд. АН Беларусі, 1962. С. 75) назоўнікі *старшыня, суддзя* мелі выразную «мужчынскую» прыкмету: у творным склоне — канчатак *-ём (-ёй): старшынём, суддзём.* Форма з *-ёй* давалася ў дужках як дапушчальны варыянт. Але пасля 1962 года з беларускіх граматык формы мужчынскага роду згаданых назоўнікаў цалкам былі пераведзены ў жаночыя...**

**У 1962 годзе, як вядома, пачаўся актыўны наступ на ўсё беларускае, самабытнае. Пачалося зліццё нацый і моў. У той год стала рускамоўнай газета для вясковага люду.**

**Адпаведна і беларуская граматыка падганялася пад расійскую. Вось мы і маем сёння і *Скарынай* і *Скарынам, Шыпілай* і *Шыпілам, Сахутай* і *Сахутам, Васей* і *Васем, Дзімам* і *Дзімай...* Ды шмат чаго іншага, але пра гэта наступны раз.**

**У.СОДАЛЬ.**

*Слоўнікі*

***Шаноўная рэдакцыя! Хачу цераз вашу газету выказаць некаторыя меркаванні ў сувязі з выхадам у свет чацвёртага, папраўленага і дапоўненага, выдання «Руска-беларускага слоўніка» (Мн., БелЭн, 1993), падрыхтаванага Інстытутам мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі. Трэба думаць, грунтоўнае і дэталёвае рэцэнзаванне слоўніка будзе зроблена спецыялістамі-філолагамі. У мяне ж пры знаёмстве са слоўнікам узніклі пытанні да сп. М. Крыўко і сп. Т. Кароткай, што непасрэдна займаліся падрыхтоўкай чацвёртага выдання.***

## ПАПРАЎЛЕНЫ? ДАПОЎНЕНЫ?

1. Чаму ў слоўніку амаль няма «цалкам самаістых», як пісаў Вацлаў Ластоўскі, беларускіх слоў, што адлюстроўваюць яе «выразна зарысаваную індывідуальнасць», і так многа калек з расійскай мовы? Ці не таму, што не выкарыстоўваліся ні слоўнік В. Ластоўскага, ні «Беларуска-расійскі слоўнік» М. Байкова і С. Некрашэвіча, ні выпускі Беларускай навуковай тэрміналогіі Інбелкульта, выдадзеныя ў 20-я гады?

2. Чаму аўтары так імкнуцца назаўсёды захаваць нашу «савецкасць», прапануючы нам у якасці адзінага варыянта і «Вярхоўны Савет», і «мясцовыя саветы», і «вучоны савет», і «педагагічны савет» і дзесяткі іншых саветаў? У некаторых ВНУ ўжо замацавалася і ўспрымаецца як належнае: «навуковая рада факультэта», «навуковая рада універсітэта». Хіба гэта не па-беларуску?

3. Чаму за прыклады падаюцца словы з бальшавіцкай афарбоўкай? Калі ідэалогія — дык камуністычная, марксіска-ленінская; партыя — дык КПСС, КПБ (дарэчы, а дзе ж ПКБ?): камітэт — дык ЦК КПСС, а як жа інакш?

У першым выданні слоўніка 1953 г. маглі быць, зразумела, толькі такія прыклады, але сёння, хацелася б спадзявацца, крышачку іншыя часы.

4. Чаму нават у тых выпадках, калі даюцца «самаістыя» беларускія тэрміны, яны пастаўлены на другое месца, а на першым — зноў жа слова-калька: ландшафт — ландшафт, краявід; фактор — фактар, чыннік; горизонт — гарызонт, далягляд. На жаль, і такіх прыкладаў — адзінкі. Няма ў слоўніку беларускіх тэрмінаў, што шырока ўжываліся ў навуковай і вучэбнай літаратуры 20-х гадоў: роўнік (экватор), зваротнік (тропик), роўналежнік (параллель), затока (залив), імшара (моховое болото), кругавід (горизонт), зляпняк (конгломерат) і дзесяткаў іншых. Яны не прапануюцца нават у якасці паралельнага варыянта. Чаму? Хіба гэта не збядняе нашу мову?

Скажыце, калі ласка, хіба трапныя беларускія словы «нацёкі» і «накапкі» для абазначэння слупоў, што ўтвараюцца ў карставых пячорах, менш зразумелыя беларускаму чытачу, чым іншамоўныя словы «сталактыты» і «сталагміты»?

5. Яшчэ два канкрэтныя прыклады. На працягу некалькіх гадоў мне даводзілася спрачацца з рэдактарамі і карэктарамі выдавецтва «Народная асвета» наконт правільнасці ўжывання слова «раянаванне» (чыста геаграфічнае панятке, яно азначае падзел тэрыторыі на часткі па пэўных прыкметах). Спасылаючыся на ранейшыя выданні акадэмічнага слоўніка, яны (рэдактары) адстойвалі форму «раяніраванне».

Я спадзяваўся на новае выданне слоўніка. Аднак дарэмна. Зноў — «раяніраванне». Чаму, гэтага я ніяк не магу зразумець. У той час: а) у працах па геаграфіі, у падручніках 20-х гадоў А. Смоліча, М. Грамыкі, М. Азбукіна — «раянаванне» (у тагачасным напісанні «раёнаванне»); б) у гэтым жа акадэмічным слоўніку, у слоўніку С. Грабчыкава дзесяткі аналагічных слоў даюцца без «-іра-»: інспектаванне, інструктаванне, інтэграванне ды інш.; в) у пяцітомнай «Энцыклапедыі прыроды Беларусі» гэтага ж выдавецтва ва ўсіх артыкулах аднязначна «раянаванне» — глебавае раянаванне, кліматычнае раянаванне і г. д.

Так часта цяпер ужываецца слова «рынак». Прыметнік ад гэтага назоўніка якую форму павінен мець — «рынкавы» або «рыначны»? Слоўнік дае другую форму: рыначныя адносіны, рыначная эканоміка. Чаму? Калі замак — замкавы, корак — коркавы, дык чаму рынак — не рынкавы? Мне, не спецыялісту ў галіне мовазнаўства, усё-такі ўяўляецца, што пабеларуску правільна гаварыць і пісаць трэба «рынкавая эканоміка», «рынкавыя адносіны».

Асабіста ў мяне пасля азнаямлення з новым выданнем акадэмічнага «Руска-беларускага слоўніка» засталося пачуццё глыбокага расчаравання.

**Сяргей СІДОР,**
**прафесар кафедры эканамічнай геаграфіі Белдзяржуніверсітэта.**

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ ў пытаннях і адказах

## Хто такія Іван і Антон Луцкевічы?

У гісторыі беларускай культуры і нацыянальна-вызваленчага руху не аднойчы здаралася, што плячом да пляча ў шэрагі змагароў ставіліся браты: Аляксандр і Іван Цвікевічы, Якуб Колас і Антон Галіна, Язэп і Антон Лёсікі... Гэтак і браты Луцкевічы.

Іван Герман Луцкевіч (нарадзіўся 28 траўня 1881 года), быў паводле адукацыі археолагам. З дзяцінства цікавіўся гісторыяй Беларусі. Сабраў вялікую калекцыю помнікаў беларускай культуры, у якой былі унікальныя зборы слуцкіх паясоў, нясвіжскіх дываноў, старажытных пячатак, манет, медалёў, рыцарскай зброі, карціны старых майстроў, граматы і стадрукі. Сярод найкаштоўнейшых экспанатаў — ілюстраванае Жухавіцкае евангелле XIV стагоддзя, першае выданне Статута 1588 года, святая кніга беларускіх мусульманаў Аль-Кітаб XVI стагоддзя, пячаткі полацкіх князёў Усяслава і Барыса, сцяг беларускіх паўстанцаў 1863 года. На аснове гэтай калекцыі ў 1921 годзе быў створаны Віленскі беларускі музей. Іван Луцкевіч з'яўляўся таксама ініцыятарам заснавання беларускай настаўніцкай семінарыі ў Свіслачы, Беларускага навуковага таварыства, Віленскай беларускай гімназіі.

Антон Луцкевіч (нарадзіўся 30 студзеня 1884 года) вывучаў матэматыку і права. Ён быў публіцыстам, літаратурным крытыкам, педагогам і гісторыкам. З-пад яго пяра выйшлі рэцэнзіі і артыкулы пра творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, М. Гарэцкага, З. Бядулі, У. Жылкі, У. Дубоўкі, М. Чарота, Н. Арсенневай. Склаў першыя падручнікі па беларускай мове, выкладаў на настаўніцкіх курсах у Вільні, у Віленскай беларускай гімназіі. Апублікаваў працы пра Ф. Скарыну, Статут Вялікага Княства Літоўскага, дзейнасць беларускіх нарадавольцаў ды іх часопіс «Гоман». Быў заснавальнікам Віленскага беларускага музея, старшынёю Беларускага навуковага таварыства і Беларускага выдавецкага таварыства.

Браты Луцкевічы ўвайшлі ў гісторыю таксама як палітычныя дзеячы. У 1903 годзе яны былі сярод заснавальнікаў Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады, якая ў 1905 годзе ўзяла назву Беларуская Сацыялістычная Грамада. Абодва ўваходзілі ў ЦК гэтай партыі. Бралі актыўны ўдзел у рэвалюцыі 1905—1907 гадоў. У 1906 годзе былі ініцыятарамі заснавання першай легальнай беларускай газеты «Наша Доля», а потым — газеты «Наша Ніва», якая сталася трыбунай беларускіх патрыётаў. У 1915—1916 гадах браты Луцкевічы прыйшлі да высновы, што Беларусь павінна стаць незалежнаю дзяржаваю у канфедэрацыі з Летувою. Па іх прапанове 25 сакавіка 1918 года была абвешчаная незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. З верасня 1918 года да лютага 1920 года А. Луцкевіч з'яўляўся Старшынёю Рады Міністраў і міністрам замежных спраў БНР.

Пасля таго як урад Леніна аддаў Польшчы заходнюю частку Беларусі, Антон Луцкевіч, які жыў і працаваў у Вільні, пяром публіцыста змагаўся за нацыянальныя і сацыяльныя правы беларускага народа. Яго заслугаю з'яўляецца тое, што на выбарах 1922 года 14 беларусаў атрымалі мандаты ў польскі сейм і сенат. Антона Луцкевіча арыштоўвалі царскія жандары, бальшавіцкія камісары. Польскія ўлады двойчы садзілі яго на лаву падсудных. Змагаючыся супраць антыбеларускай палітыкі польскіх урадаў, А. Луцкевіч адначасова выкрываў сталінскую палітыку ў БССР. Калі ў верасні 1939 года ў Вільню прыйшла Чырвоная Армія, яго арыштавалі і, патрымаўшы 20 месяцаў у турмах, асудзілі на 6 гадоў зняволення ў лагерах.

Дакладныя месца і дата смерці А. Луцкевіча невядомыя.

Іван Луцкевіч, хворы на сухоты, памёр яшчэ ў 1919 годзе ў польскім курортным горадзе Закапанэ. У 1991 годзе ягоны прах перавезены ў Вільню. Тут, на могілках Росы, знаходзіцца цяпер сімвалічная магіла братоў Луцкевічаў.

**Анатоль СІДАРЭВІЧ.**

## Калі паўстала першая беларуская палітычная партыя?

Увосень 1902 года група студэнтаў-беларусаў (В. Іваноўскі, А. Пашкевічанка, І. Луцкевіч і інш.) пачала ствараць у Пецярбургу падпольную арганізацыю пад назвай Беларуская Рэвалюцыйная Партыя. Узімку 1902/03 года адбыўся з'езд прадстаўнікоў студэнцкіх і вучнёўскіх гурткоў Менска, Вільні і Пецярбурга, на якім была ўтвораная Беларуская Рэвалюцыйная Грамада, пазней перайменаваная ў Беларускую Сацыялістычную Грамаду. Да ліку заснавальнікаў БСГ, акрамя названых асобаў, належалі А. Луцкевіч, А. Бурбіс, К. Кастравіцкі, А. Уласаў, В. Ластоўскі і інш. Сваёй найбліжэйшай задачай БСГ ставіла звяржэнне самаўладдзя і заваёву дэмакратычных свабодаў у хаўрусе з іншымі народамі Расейскага гаспадарства, а канцовай мэтай — пабудову сацыялізму. Па нацыянальным пытанні ў першай праграме (1903 год) выказалася за стварэнне незалежнай Беларускай дэмакратычнай рэспублікі, а ў другой (1906 год) — за дзяржаўную аўтаномію Беларусі з Соймам у Вільні (у складзе Расейскай федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі) і культурна-нацыянальную аўтаномію для нацыянальных меншасцяў.

Лідэры БСГ прычыніліся да заснавання выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца» ў Пецярбургу і першых легальных газет на беларускай мове — «Нашай Долі» і «Нашай Нівы», якія выдаваліся ў Вільні. Пасля паразы першай расейскай рэвалюцыі рэакцыя фактычна спыніла дзейнасць і як партыя часова перастала існаваць. Яе актыў засяродзіўся вакол «Нашае Нівы», якая сталася цэнтрам згуртавання і выхавання нацыянальна свядомай інтэлігенцыі і нацыянальна-культурнага адраджэння народа.

Пасля акупацыі Вільні кайзераўскімі войскамі (1915 год) частка лідэраў БСГ (браты Луцкевічы, В. Ластоўскі) узначаліла «Беларускі камітэт дапамогі пацярпелым ад вайны» і выступіла з ідэяй адраджэння Вялікага Княства Літоўскага з Соймам у Вільні.

На тэрыторыі Беларусі, што знаходзілася пад уладай Расеі, БСГ аднавілася адразу пасля Лютаўскай рэвалюцыі. Яна была галоўным арганізатарам з'езда прадстаўнікоў нацыянальных арганізацый у Менску ў сакавіку 1917 года, на якім былі прынятыя рашэнні аб стварэнні краёвай аўтаноміі Беларусі ў складзе Расейскай федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі. Аднак Часовы расейскі ўрад адклаў развязанне гэтага пытання да Устаноўчага сходу.

Улетку 1917 года БСГ значна вырасла. Акрамя Беларусі яе арганізацыі дзейнічалі ў Петраградзе, Маскве, Кіеве, Адэсе, Саратаве, Казані, Гельсінгфорсе і іншых гарадах. Лідэрамі яе ў гэтым часе былі В. Адамовіч, П. Бадунова, Я. Варонка, Я. Дыла, З. Жылуновіч, А. Прушынскі, С. Рак-Міхайлоўскі, А. Смоліч, Б. Тарашкевіч, А. Чарвякоў. Тады яна была найбольш масавай і ўплывовай партыяй у беларускім нацыянальным руху.

БСГ была адным з галоўных арганізатараў Першага Усебеларускага кангрэса ў Менску. Пасля яго разгону дзеячы нацыянальна-дэмакратычнага кірунку зрабілі высновы аб немагчымасці дзяржаўна-палітычнага развязання беларускага пытання ў хаўрусе з бальшавікамі і ўзялі ўдзел у стварэнні незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі (абвешчаная 25 сакавіка 1918 года), арыентуючыся на падтрымку спачатку Германіі, а пазней — Антанты. У сярэдзіне 1918 года з гэтага крыла БСГ аформіліся Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя і Партыя беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў.

Дзеячы левага кірунку на чале з А. Чарвяковым і З. Жылуновічам, выказаўшы пратэст супраць разгону Усебеларускага кангрэса, усё ж пайшлі на супрацоўніцтва з бальшавіцкімі ўладамі і настойліва пераконвалі іх у неабходнасці стварэння беларускай аўтаноміі на савецкай платформе ў рамках РСФСР. З гэтага крыла БСГ, якое складалі ў асноўным арганізацыі беларусаў-бежанцаў, рабочых, вайскоўцаў, інтэлігентаў, што жылі і працавалі ў Савецкай Расеі, увесну 1918 года пачалі ўтварацца беларускія секцыі РСДРП(б), якія групаваліся вакол Беларускага нацыянальнага камісарыята пры Наркамнацы РСФСР. Такім чынам, да лета 1918 года БСГ канчаткова распалася.

**Міхась БІЧ.**




*Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Славу і гонар армянскай паэзіі стварылі Аванэс Туманян (1869—1923) і Авецік Ісаакян (1875—1957).

*Аванэс ТУМАНЯН*

## Ужо не вярнуць

Датлеў запал той і астыў,
Які́м пагрэбавала ты.
Ён, уздыхнуўшы, знік імкліва,
І стала пуста ды маўкліва.

Дык не будзі дарма ўспамін
Пра смутак горкасны хвілін,
Дзе нас заспела развітанне,—
Ім не ўзнавіць агонь жадання.

*Пераклад Алеся ЗВОНАКА.*

## Нашым продкам

Ах, песняры былыя! Промні міражу
Славіўшы, вы ўжо гімны ім складалі,
Пакут армянскіх бачылі мяжу,
Армян жывою марай суцяшалі.

Вы пра радзіму вольную тады
Спявалі, хоць яна ў крыві стагнала.
Вы радасцю прыспешвалі гады,
І гэта сэрцы нашы сагравала.

А сёння зноў распятая яна,
І з ёю — сэрца нашага святыні.
А мара — то міраж. Яна — мана.
Не ашукае больш нас у пустыні.

Ледзь мы ўзмужнеем — галава сама
Схіляецца, і ў сэрцы моўкнуць гукі,
Ні песень і ні бога ў нас няма,
І ліру выпусцілі рукі.

*Пераклад Янкі СІПАКОВА.*

*Авецік ІСААКЯН*

* * *

Далёка, нязломны ў сваёй праваце,
У лесе той дуб неадольны цвіце,
Што некалі стане маёю труной.
І смерць мая ўжо на апошняй вярсце:
Не цешыцца сэрца салодкай маной,
Я чую затоены шэпт нада мной.

* * *

Маланкай шчасця, громам бед,
Світаннем зорнага каўша
На валаску вісіць Сусвет,
А валасок — мая душа.

*Пераклад Рыгора БАРАДУЛІНА.*

ТЭАТР

# СВЯТЛО «ЗЬНІЧА»

***Як ствараецца тэатр? Будуецца вялікі гмах з залай і сцэнай перад ёй, з раздзявальняй і буфетам, з грымёрнымі і кабінетам дырэктара. Прызначаны на пасаду рэжысёр набірае акцёраў і вызначае рэпертуар. І вось штовечар ля ўваходу тлумяцца школьнікі, якіх цэлымі класамі водзяць на спатканне з мастацтвам, а ўздоўж бліжэйшага ходніка паркуецца калона машын «залатой» публікі.***

***Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра «Зьніч» жыве іншым жыццём. Усё яно — адлюстраванне асобы яго стваральніцы і мастацкага кіраўніка — актрысы Галіны Дзягілевай, тэатр, паэзія і беларускае слова ў творчасці якой даўно ўжо зліліся ў адно.***



**Першы спектакль на сцэне тэатра быў пастаўлены два гады таму. Але яшчэ ў 1987 годзе адбылася прэм'ера паэтычнага монаспектакля «Любіць», створанага Дзягілевай паводле паэмы Анатоля Вярцінскага «Дажынкі» ды вершаў паэта розных гадоў. У 1989 годзе актрыса паставіла яшчэ два монаспектаклі: «Мне сняцца сны аб Беларусі» паводле малавядомых, не друкаваных на працягу апошніх дзесяцігоддзяў вершаў Купалы, а таксама «Выгнанне ў рай» Н. Рапа, асновай сюжэта якога сталі падзеі, што адбываліся на землях Беларусі ў X стагоддзі — лёс князёўны Прадславы, вядомай нам як Ефрасіння Полацкая. Пастаноўка «Выгнання ў рай» у Сафійскім саборы Полацка ў 1990 годзе стала знакам прызнання майстэрства артысткі. А ў 1992 годзе Галіна Дзягілева стварыла ўласны тэатр «Зьніч». Тэмай першага ж пастаўленага ў ім спектакля «Белы сон» стаў лёс Ларысы Геніюш.**

**Зьніч, пахавальны агонь, бажаство дахрысціянскага культу памяці продкаў — і бясконцыя варыяцыі тэмы памяці ў спектаклях тэатра «Зьніч»... Кожны з іх — як напамін аб ланцугу пакаленняў, якія звязвае нас з людзьмі, для якіх прыналежнасць да Беларусі і яе народа была не дэкларацыяй, а часткай жыцця.**

**— «Зьніч» ствараўся не проста як беларускамоўны, а як беларускі тэатр,— пачуў я ад яго кіраўніцы.— Купала, Караткевіч, Геніюш у нашых спектаклях не постаці Адраджэння, не класікі нацыянальнай літаратуры, а жывыя людзі, радасць, боль і пакуты якіх мусіць адчуць і падзяліць кожны з гледачоў. Але наша беларускасць не азначае замкнёнасці ў межах нацыянальнай тэматыкі. Разам са спектаклем пра лёс Івана Луцкевіча ідуць ці хутка адбудуцца спектаклі па п'есах Ежага Брашкевіча, Аляксандра Пушкіна. Рыхтуецца монаспектакль «Адам і Марыля» аб жыцці і каханні Адама Міцкевіча. Мы імкнёмся паказаць гледачам свайго Пушкіна і свайго Міцкевіча, бо тэатр, як і чалавечыя пачуцці, не прызнае межаў. А гэта значыць, што з нашай сцэны па-беларуску павінна гучаць тое, што хвалюе людзей ва ўсім свеце.**

**— Тых, каго называюць адраджэнцамі, у шэрагу выпадкаў не аб'ядноўвае нічога, акрамя самога гэтага акрэслення. Кожны з іх сам, у акружэнні непрыхільнага ці абыякавага асяроддзя будуе сваю Беларусь. Ці не з'яўляецца само існаванне беларускага тэатра аднаго акцёра часткай гэтага працэсу?**

**— Магчыма, у гэтых словах ёсць рацыя. Паслухайце:**

**Ты і жыў, і любіў,**
**Ты не ўмёр — і забыў,**
**Каб нічога не дбаць,**
**Смела ўдаль паглядаць,**
**Быць самым не на смех...**
**Гэта снег, толькі снег...**

**Гэтыя словы Купалы датычаць усіх нас. Быць самым не на смех... Гэта ёсць адзіноце кожнага з тых, хто будуе Беларускі дом. Але існуе яшчэ адна самота, самота артыста перад залай, самота носьбіта беларускай ментальнасці, які імкнецца данесці свае пачуцці да людзей іншай свядомасці.**

**Гэта цяжка. Але я не люблю енку. Наша мастацтва — не лямант аб «гаротнай беларускай зямельцы», «занядбанай мове» ці «няшчасным народзе». Наш т-э-атр — не інструмент прапаганды беларушчыны. Мы жывём у ёй, працуючы на будучыню.**

**Вільня, Полацк, Рыга, Беласток, Масква, Талін, Бон, Перм. За няпоўныя два гады існавання беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра аматары тэатра ва ўсіх гэтых гарадах воплескамі сустракалі яго спектаклі. Хай не разумеючы часам мовы артыстаў, яны адчувалі: «Зьніч» не прапагандуе беларускую культуру. Ён з'яўляецца яе часткай.**

**НА ЗДЫМКУ: Галіна Дзягілева ў ролі Рагнеды.**

**У. ПАНАДА.**
**Фота аўтара.**

*На музычных хвалях*

# Бяжы, хлопец!

74 гады знаходжання Беларусі ў складзе СССР... Якія адметныя рысы надаў гэты час нашаму краю? Галоўная і найбольш заўважальная сярод іх — другаснасць, якая датычыць усяго жыцця нашага грамадства. Гэта — тавары, якія не могуць стварыць канкурэнцыі замежным аналагам на сусветным рынку. Гэта — палітыкі, што, прымаючы рашэнні, чакаюць падказкі з-за мяжы. Гэта — беларускія грошы, ледзьве вартыя паперы, на якой яны надрукаваны. Ці здолела захаваць у падобных умовах сваю адметнасць сучасная беларуская культура?




Сёння на гэтыя пытанні можна адказаць «так». У канцы мінулага года англійская фірма «Ар-Ці-Экс» выдала першы ў гісторыі беларускай папулярнай музыкі кампактдыск з запісам праграмы мінскага гурта «Крама».

Чаму на перасычаны музычны рынак Англіі са сваімі запісамі выйшла адносна малавядомая ў сябе на Радзіме «Крама», а не тыя з эстрадных спевакоў, каму друк, тэлевізія і радыё надаюць значна больш увагі? Прычына гэтаму адна — большасць выканаўцаў папулярнай музыкі, прадстаўленых беларускімі сродкамі масавай інфармацыі, яднае агульная рыса — тая ж другаснасць, імкненне падрабляцца пад не найлепшыя ўзоры нават не сусветнай, а расійскай эстрады.

У адрозненне ад шматлікіх спевакоў, мяжой жадання ў якіх застаецца выступленне на тэлеканале «Астанкіна» з песняй, выкананай на мове міжнацыянальных зносін былога Саюза, «Крама» пайшла іншым шляхам. Пачаткам яго было пракручванне ў музычных праграмах буйнейшай у Вялікай Брытаніі тэле-, радыёкампаніі Бі-Бі-Сі песень гурта, якія выклікалі значную зацікаўленасць аматараў музыкі адметнасцю музычнага стылю. Праз нейкі час песні беларускіх музыкаў увайшлі ў гіт-парад Бі-Бі-Сі, пасля чаго з'явілася прапанова запісаць і выдаць праграму ў Англіі. Гэта было зроблена, але з адзінай умовай — усе кампазіцыі на кампакт-дыску гучаць па-ангельску, бо аматары музыкі ў Вялікай Брытаніі аддаюць перавагу песням на роднай мове.

Што ж прымусіла беларускіх музыкаў шукаць шчасця за мяжой? Тлумачыцца гэта проста: кіраўнікі дзяржаўнай сістэмы радыё- і тэлевяшчання напросту не імкнуцца нейкім чынам падтрымліваць недзяржаўныя музычныя калектывы. Перавага аддаецца дзяржаўным, хай нават невысокага выканаўчага і мастацкага ўзроўню. У сваю чаргу, недзяржаўная сістэма шоў-бізнесу — студыі і фірмы гуказапісу, прыватныя тэле- і радыёкампаніі — зарыентаваныя на масавага слухача, выхаванага на ўзорах рускамоўнай савецкай эстрады. Беларускамоўным выканаўцам, якія не маюць фінансавай падтрымкі, застаецца шукаць свайго лёсу за мяжой, перарабляючы беларускія песні на ангельскі лад. На Радзіме яны непатрэбны.

«Бяжы, бяжы, хлопец»,— спяваў саліст «Крамы» Ігар Варашкевіч на сваім апошнім канцэрце ў Менску. Што хацеў ён гэтым сказаць?

**У. П.**

